# УСХОД БЕЛАРУСКІХ ЗОРАК

## НА ФЭСЦЕ «ЗАХІД-2012»

**Музычны фестываль «Захід-2012» – гэта адна з найбуйнейшых культурных падзей Украіны. З 2009 году ладзіцца гэты фэст на Львоўшчыне. Сваімі ўражаннямі дзеліцца сябра «Дзедзіча» Раман К.**



Як і ў мінулым годзе, «Захід-2012» адбыўся ў былым дзіцячым лагеры «Сонечная Галявіна», што ў Радацічах, недалёка ад Львову, з 17 па 19 жніўня.

Менавіта для беларусаў самымі цікавымі былі запланаваныя выступы «Крамбамбулі» і «Ляпіса Трубецкога». Некаторыя нават прыехалі толькі на адзін дзень, каб убачыць яскравы начны перфоманс ад легендарных гуртоў. Увогуле — больш за 50 гуртоў на 3 сцэнах, а таксама літаратура, тэатр, майстар-класы.

### ДАРОГА

Варыянтаў для падарожжа было шмат: і камфартабельны аўтобус з Менску за 80 даляраў, і звычайны з Берасця за 20, і нават "электрычка-тур" для самых эканомных, якім наша группа і паехала. Дабрацца з Берасця да Львова на электрычках заняло 12 гадзін і каштавала прыкладна 25 тысяч рублеў – сапраўды па-студэнцку не дорага.

І вось, калі ўжо сцямнела, ахоўнік фэсту правёў нас на поле для намётаў. Скрозь начны туман і дым вогнішчаў, апроч яркіх кропак (якія былі на самой справе вогнішчамі, каля якіх грэліся ўначы, гутарылі і спявалі песні ўжо прыблізна 3-4 тысячы чалавек) быў бачны кавалак дарогі, якая далей танула ў цемры, а часам яшчэ і святло фар аўтамабіляў, якія павольна прывозілі ўсё новых і новых людзей. (Дарэчы, да 17 жніўня па інтэрнэце і тэлефоне было ўжо замоўлена прыблізна 12 000 квіткоў.) У цемры ўперамешку з туманам святло ад фар і вогнішчаў, галасы і спевы з усіх бакоў – усё гэта было падобна на стаянку старажытнага войска, якое хутка збіраецца выйсці ў паход. А падмацаванне ўсе прыбывала.

### ПЕРШЫ ДЗЕНЬ

Калі прачнуўся зранку, першае, што кінулася мне ў вочы, гэта тое як шмат з'явілася вакол новых намётаў: трэба было хутка займаць тэрыторыю для сяброў з Беларусі, якія прыедуць пазней. Ледзяны душ ці купанне ў возеры, пошук дроваў, сняданак, знаёмства з суседзямі, песні пад гітару – дзень прайшоў вельмі хутка і людзі з беларускімі сцягамі пачалі ўсё часцей і часцей сустракацца каля галоўнай сцэны, усё часцей было чуць спевы "Калі раптам адчуеш…"

Усім было зразумела – беларусы прыйшлі падтрымаць сваіх. Выступ «Крамбамбулі», як заўжды, эмацыйны і яркі. Спачатку шмат украінцаў не ведала, адкуль гэтыя беларусы і хто яны, але напрыканцы пад тыя самыя "Тры чарапахі" скокалі ўжо ўсе, і разам крычалі "Крамбамбуля, яшчэ!"

Лявон Вольскі выступам і публікай застаўся задаволенны. Атмасфера фестываля паўплывала на настрой музыкаў. Былі прапановы прыехаць ў Берасце, але, як сказаў Алег Гарус, гітарыст Крамбамбулі:

> - ПЛАНАВАЛІ З ЛЯВОНАМ АКУСТЫЧНЫ КАНЦЭРТ У БЕРАСЦІ, АЛЕ ЎСЁ, НА ЖАЛЬ, НАМ ЗНОЎ АДМЯНІЛІ...

Падчас размовы гутарка зайшла і пра будучыя парламентскія выбары, якія Лявон Вольскі пракаментаваў коратка:

- Я ў гэтым не удзельнічаю ўзагаллі. Я ўжо ў мінулых выбарах паўдзельнічаў, хопіць.

Падчас самаго выступу Лявон быў сапраўды здзіўленны, калі ў песні "Турысты" апошні радок за яго праспявала публіка.

- Як добра ведаем словы і як шмат беларусаў! Прыемна ўражаны!

Дарэчы, "Тры чарапахі" спявалі на гэтым фэсце шмат разоў: гэтыя словы данасіліся ўначы і з наметаў, і ад вогнішчаў. А колькі іншых цудоўных спеваў было чуць у Радацічах у гэтыя дні…

### ДРУГІ ДЗЕНЬ

Ён сустракаў нас яскравым сонейкам ды ўсмешкамі задаволенных людзей. Адкрыліся невялічкія крамы, у якіх можна было набыць розны hand-made: торбы, завушніцы, пярсцёнкі. Намёты беларусаў былі раскіданы па ўсёй паляне, а жаданне пазнаёміцца с землякамі было вельмі моцнае.

Па дарозе – сустрэчы з украінцамі, гутаркі ля вогнішча, песні па чарзе – адна беларуская, адна украінская… І на звычайнае "Прывітанне" да незнаёмых людзей чуеш ў адказ пазітыў і жаданне пачаставаць братоў-беларусаў.

Атмасфера цуду ў паветры, таму што ўвечары ўсе чакаюць «Ляпіса Трубецкога». Музыка з машын, ад спевакоў з гітарамі ля кастроў, нават з мабільнікаў, і ўсё адзін гурт і адзін голас. Выступ быў запланаваны на 00-30.

Было бачна, што Сяргей Міхалок вельмі засяроджаны, бачна, што ён у вельмі добрай фізічнай форме, чакае ў машыне для музыкаў і не размаўляе з журналістамі, не дае аўтографаў, не фатаграфуецца, але на вуліцы можна пагутарыць з ветлівымі ўдзельнікамі калектыву.

З фургона Міхалок адразу накіроўваецца да сцэны, канцэнтруецца, і вось ён ужо ля мікрафона. "К вам приехал Трубецкой" – першая песня як прывітанне, а пасля яго вершы паміж песнямі "Не быць скотам", "Грай"… Натоўп скача і нібыта дыхае разам з Ляпісам, пад некаторыя песні радасна і лёгка, але пад большасць жорстка ды моцна.

Пад самай сцэнай, у зоне для фатографаў, мала месца: большасць не фатографы, а журналісты, арганізатары ды ўдзельнікі гуртоў – можна убачыць Роллікс, Юркеш, RockyLeon.

Адна справа слухаць запіс, другая бачыць твар чалавека, ў якога сапраўды баліць сэрца за тое, пра што ён пяе. Тут няма ўсмешак ці жартаў – праз выступ бачны боль у вачах Сяргея, боль за сучасны свет, Радзіму, жыццёвыя каштоўнасці. Часам гэты боль змяняецца на гнеў, і чуць амаль што баявы заклік.

На гэтым фоне нават "Залатая антылопа", якая была выканана на біс, успрымалася як сатыра над сабою. Бліскучы, сапраўды бліскучы выступ. Пасля гэтага адразу да машыны. Ля яе спакойна паліць сола-гітарыст, але ўсе чакаюць Міхалка.

Праз 10 хвілін гурт «Ляпіс Трубецкой» ад'ехаў з фестывалю «Захід-2012», без каментароў, аўтографаў і інтэрв'ю – ўсё, што было патрэбна, сказана са сцэны.

На жаль, сёння мы не можам пачуць некаторых музыкаў на Радзіме. Але калі захацець – усё магчыма. Пытанне толькі ў прыярытэтах.

Добрай дарогі дадому ўсім беларусам і жыццёвых прыярытэтаў, пра якія потым не прыйдзецца шкадаваць.



**Дзякуй за фотаздымкі Зміцеру Шчарбіну і парталу bokeh.com.ua**

**Раман К.**

# "БІРЖА МОЛАДЗЕВЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ" – 2012

**24 маладыя берасцейцы ўзялі ўдзел у адукацыйным праекце "Біржа моладзевых ініцыятыў – грамадскія лідары", арганізаваным фондам "Шчаслівае дзяцінства" і АРР "Дзедзіч". Першае мерапрыемства праекта прайшло ў вёсцы Мотыч пад Люблінам.**

Вандроўка пачалася з Тэрэспаля, дзе нас сустрэў аўтобус і мы, хуценька заняўшы свае месцы паехалі ў напрамку Люблiна. Кожны займаўся ў аўтобусе сваімі справамі, хтосьці чытаў кнігу, хтосьці спаў, а хтосьці знаёміўся з новымі сябрамі.




Нарэшце мы прыехалі! Месца было прыгожае і ўтульнае. Вялікі дом, месца для вогнішча і нават козы і поні, якія проста гуляюць па двары. Першым, хто нас сустрэў, была Сара, якая пачала на нас скакаць і лізаць далоні. Але не пужайцеся, – гэта ўсяго толькі сабака, які павінен быў вось – вось нарадзіць некалькі маленькіх шчанят. Але, забягаючы наперад, хачу сказаць, што цуда нараджэння нам так і не ўдалося пабачыць.

Мы хуценька расклалі рэчы па ўтульных пакоях і селі за стол, дзе нас чакаў смачны абед прыгатаваны пані Юстынай. А пасля мы пазнаёміліся з фондам "Шчаслівае дзяцінства" і з мэтамі праекту, які нас чакае.

Нават у дзень прыезду нашы трэнеры нас не пашкадавалі, ішла актыўная вучоба, на якой мы атрымалі элементарныя веды пра грамадзянскую супольнасць. Пасля вячэры наш трэнер Марта правяла цікавыя інтэграцыйныя гульні, з дапамогай якіх удзельнікі праекту змаглі пазнаёміцца і наладзіць паразуменне ў сваіх міні-групах.

У пятніцу, на другі дзень, нас чакала вельмі насычаная праграма. У першую палову дня мы сустракаліся з грамадскай арганізацыяй FIM, прадстаўнікі якой распавялі, чым яны займаюцца і з якой мэтай дапамагаюць асяроддзю.

Пасля гэтага каардынатар праекта з польскага боку, пан Ян Федзірка правёў нас па старой частцы горада, мы мелі магчымасць пабачыць Рынкавую плошчу і Люблінскі замак. Ну і канешне ўсіх уразіла капліца XIII ст. з арыгінальнымі фрэскамі.

У Мотычы нас чакаў абед і кароткі адпачынак, пасля якога мы зноў былі гатовы атрымліваць веды.

Трэнеры распавялі нам шмат цікавай інфармацыі пра мэнэджмент увогуле і пра тое, як пісьменна арганізаваць грамадскую ініцыятыву.

Напрыканцы дня быў беларускі вечар. Кожная каманда падрыхтавала розныя гульні на беларускую тэматыку, а адна каманда нават прачытала верш.

Субота была поўнасцю занятая вучобай. Мы вучыліся рыхтаваць прапановы ініцыятыў на біржу, ствараць сваю фірму і размяркоўвалі ролі ў сваёй групе.

У нас быў час падрыхтаваць некалькі ўласных ініцыятыў, якія былі здзейснены тым жа вечарам. Кожны мог выбраць забаву па густу. Амаль усе дзяўчыны пабеглі плясці косы, а хлопцы пачалі кідаць змятую паперу ў сметніцу, хтосьці мог паўдзельнічаць у арыентаванні па мясцовасці, альбо památляваць на асфальце. Ініцыятыў было так шмат, што моладзь часам не ведала ў чым паўдзельнічаць. Дзень скончыўся вогнішчам з гульнямі ды смачнай каўбаскай.

Чацвёрты дзень быў не менш захапляльным. Мы патрапілі ў вельмі прыгожы горад Казімеж-Дольны, які змяшчаецца на беразе Віслы і мае сваю старажытную крэпасць. Наступным пунктам быў горад Наленчув з маляўнічым старым паркам і з рознымі ўтульнымі кавярнямі.



Усе, канешне, стаміліся ад такой насычанай праграмы, але вучоба ёсць вучоба. Пасля сытнага абеду зноў уважліва слухалі нашага трэнера, які вучыў нас правільна карыстацца модулем інтэрнэт-біржы. Спачатку цяжкавата было зразумець што і за чым ідзе, але дзякуючы раздрукоўкам усё хутка стала зразумела. У апошні поўны дзень зрабілі развітальны вечар і берасцейскія дзяўчыны з задавальненнем накармілі ўсіх смачнымі дранікамі.




Пяты дзень – дзень ад'езду. Але перад гэтым нас чакала яшчэ вучоба, вучоба і яшчэ раз вучоба. Мы ўдасканалілі свае навыкі карыстання модулем інтэрнэт-біржы і атрымалі веды ў вобласці выкарыстання інтэрнэт-прылад у электронным бізнесе.

Пасля пан Ян раздаў нам ацэначныя анкеты ў якіх мы мелі магчымасць пазначыць недахопы і станоўчыя моманты адукацыйнай праграмы.

Ну і канешне апошні абед ад пані Юстыны, не менш смачны, чым усе папярэднія. Але не паспелі мы адыхацца пасля ежы, як адразу пасігналіў наш аўтобус і мы павінны былі развітацца з Мотычам.

Вельмі шкада было развітвацца з такім утульным месцам. Ды і ўдзел у такой адукацыйнай праграме быў вельмі карысны для нас.

Сачыце за нашымі ініцыятывамі, якія мы выкладаем, купляем і рэалізоўваем праз сайт: http://gmioby.fsd-projekty.eu/!

Мотыч, да сустрэчы!

dzedzich.org



# ФОТОГРАФИЯ ТВОРИТ ИСТОРИЮ

***Удел фотографа — непрерывно исчезающие вещи. И когда они уходят, никакая изобретательность, ничто на свете не заставит их вернуться.***
***Анри Картье-Брессон , фотограф.***

**Что такое фотография и что она означает для каждого человека? Милые лица, хорошие воспоминания... История для каждого из нас и даже для всего человечества.**




Однажды, около года назад, гуляя в Киеве по Майдану, наблюдали с подругами картину: мама, папа и девочка лет четырех, фотографировались на пленочный фотоаппарат, простую «мыльницу». Подруга удивленно сказала: «Я думала уже никто не пользуется пленочными фотиками, это же прошлый век, да к тому же неудобно». «Зато, - ответила ей моя сестра, - они распечатают фотки, вклеят в альбом и у них останется память о прошлом, а у тебя, если полетит винда на компе, нечего будет показать внукам».

Действительно, фотография - самый доступный способ «остановить время». Именно поэтому она плотно вошла в нашу повседневную жизнь: ни одно мероприятие проходит без «фотоотчета». Вместо рассказа, как провел лето, отпраздновал день рождения, съездил на море, лучше всего расскажет папочка с изображениями на рабочем столе или фотографии в рамочках на комоде. Теперь историю хранят не только книги, сегодня есть возможность визуально воспринимать прошлое. Зрительный рецептор - сильнейшее средство восприятия информации. Смотря на фото 20-30-ых гг., обращаешь внимание на моду, предметы интерьера, образ жизни, «прочитать» можно даже тип, манеры, правила поведения в обществе. Всю эту информацию хранят фотографии.

Фотография рабочих, сидящих на стреле строительного крана на высоте 69-го этажа строящегося тогда Рокфеллер-центра: в этом изображении и величие центра, и величие эпохи строительства 30-х годов, и бесстрашие рабочих, и их профессионализм, уверенность, и колоссальный труд и сложность работы.

Чтобы сделать фотографию «Dal? Atomicus» Сальвадору Дали понадобилось 28 кадров, целая комната помощников и 6 часов. Все ради одного снимка. Казалось бы зачем, но эта фотография безусловно повлияла на искусство фотографии и на мировое искусство в целом.

Фотографии горячих точек надолго заседают в памяти. Этим сильна репортажная съемка, которая, за счет профессионализма фотографов, в союзе с сильной статьей будоражат сознание, показывают иную реальность, не ту белую и пушистую, которую мы привыкли видеть, в которой привыкли жить.

Фотография показывает реальность, говорит на языке «того» периода времени, не дает предвзятой оценки, как, например, литературные творения.

Благодаря знаменитой фотографии Энштейна с высунутым языком, мы знаем выдающегося физика с другой стороны: он умел дурачиться, быть веселым и непосредственным. При упоминании имени Мерлин Монро мы сразу вспоминаем летящую юбку белоснежного платья и очаровательно вышедшую из, казалось бы неловкой, ситуации самую знаменитую блондинку тысячелетия.

Если вернуться к теме цифровых фотографий нашей современности, то встает вопрос: так ли важно удобство, экономия сил и времени на печать фотографий, возможность их редактирования? Будет ли возможность у моих внуков переворачивать листы тяжелых альбомов с вклеенными фотографиями? Услышу ли я вопрос: «Бабушка, а что это за красивая тетя?» Останутся ли после нас желтые карточки, запечатлевшие искренние эмоции, сохраняющие дух нашей эпохи?

**Саша Литва**

# КУЛЬТУРНОЕ ДЕЛО

**15 сентября в Бресте культурный портал «КУ» при поддержке АРР «Дзедзич» провёл бесплатный мастер-класс для всех желающих начать своё культурное дело.**

Начать свое дело в сфере культуры – всегда большой вызов. Кажется, что нужно знать правильных людей, сложные схемы и механизмы, обладать большим капиталом.

Чтобы дружеские брейнсторы на кухне и мечты перерастали в нечто большее, иногда не хватает ободряющего стимула и реальной истории успеха. Такими историями и поделились спикеры из Бреста и Минска на КУ-meetup#8 «Культурное дело», мастерклассе от профессионалов-практиков.

Девушки из студии «Ліхтар» Катерина Сыромолот и Ирина Злобина рассказали о том, что в культурном деле остаётся порой не так уж и много креатива и творчества - бизнес есть бизнес, и им нужно заниматься, с этим нужно работать - вести бумаги, докуметацию, следить за счетами, бухгалтерией.

Студия «Ліхтар» занимается созданием креативных современных городских сувениров. Девушки рассказали о том, как у них появилась идея начать своё культурное дело - из желания делать подарки своим друзьям и знакомым из другого города или из другой страны. Не просто подарки, а подарки, которые говорили бы иностранцам о Беларуси и Минске - кроме плетёных из соломки коней и разных «странных глиняных штук». Отдельно было отмечено то, что современные городские сувениры должны быть полезными и юзабельными - сумка, открытка или блокнот будут намного полезней разных статуэток.

Всем пришедшим девушки подарили открытки, современные и креативные, которые оценили все.

Вадим Жук, основатель фотошколы Studio 67, рассказал о том, как важно создать своё культурное пространство. И о том, как из одной идеи вырастают другие, для реализации которых и нужны друзья, единомышленники, даже незнакомые люди, которые с радостью поддержат вашу инициативу.

Так, из фотошколы выросла идея проводить во дворике кинопросмотры, с прослушиванием пластинок, обсуждением, с выступлением музыкантов и другими перформансами.

Тем не менее, как отметил Вадим Жук, не нужно забывать и о главной цели, тщательном планировании, иначе не будет никакого движения вперёд и первоначальная идея будет обречена.

Дима Ремм, барист (Times Cafe, Брест), DJ, промоутер выступал последним, говоря о инициативе ради самой инициативы, о том, какая неожиданная ответственность порой ложится на плечи организаторов вечеринок, концертов (где-то кто-то разбил окно, сломал кому-то нос), о том, в чём они бывают виноваты




(пришло мало человек) и о том, почему они уходят в минус финансово («вы просто обязаны пустить меня на этот концерт бесплатно, ведь я же известный всем брестский рэпер») и кармически.

**dzedzich.org**

# ЮЗАФ КРАШЭЎСКІ ПРА БЕРАСЦЕ

**З нагоды 200-х угодкаў славутага польскага пісьменьніка, які, як вядома, працяглы час пражываў пад Пружанай у бацькоўскай хаце, адбываецца і на Беларусі шмат падзеяў: ладзяцца канфэрэнцыі, выставы, прэзэнтуюцца кнігі і пераклады. Таму і мы прапануем вашай увазе нарыс Юзафа Крашэўскага «Адзенне мяшчанаў і сялянаў з ваколіц Берасця, Кобрына і Пружанаў», апублікаваны на польскай мовай у 1859 годзе ў «Tygodniku illustrowanym».**

**Пераклаў з польскай Раман Патапчук**



Ці ведае хто з вас той ціхі куток, на роўніцы катарага, напалову пяшчанай, напалову залітай балотамі і водамі, чорнымі палосамі цягнуцца лясы і гаі, а далягляд наўкол сіняя стужка апаясвае? Нейкай невымернай тугой патыхае ад гэтага закутку, сярод якога дзе-нідзе палоска закураных хат з бярозамі, што зьвісаюць на дахі, з драўлянымі крыжамі, з платамі з шэрага каменя, з пацямнелымі ад старасці царкоўкамі, перарваныя толькі аднастайнай цішай палёў, балотаў ды бароў. Як трапіш сюды, дык здаецца, што ўвайшоў у закутак, у які не трапляюць нават галасы шумлівага свету… Адно птах, божы спявак, разнастайнымі мелодыямі спявае над сухменню і трасавінай пра свой смутак і весялосць… Толькі працягнецца паволі праз вымашчаную каменьнем грэблю скрыпучы воз селяніна, адным колам з'яжджаючы ў зарослы сітняком роў, каб цябе прапусціць… Толькі вецер пакалыша галінкі, і зноўку глухое маўчанне. Хто шукае спакою, сюды павінен уцячы.

Прыбыўшы з вясёлых краёў, дзе вока з думкай супернічаюць, сэрца агортвае туга, але калі прызвычаіцца да гэтага заспакойваючага смутку, дык ужо табе з ім і добра, і жыў бы з ім да веку, і здаецца ён табе ўжо пекным, бо гэта родны пэйзаж, непадобны ні да якога іншага ў свеце.

А народ пачцівы, які мешкае ў гэтых вёсках, складзеных з нізкіх хат, над драўлянымі дахамі якіх вытыркаюцца толькі счарнелыя ад сажы трубы дымаходаў, — такі ж ціхі, рахманы і пачцівы, як і прырода, што яго атачае. Нешта ад яе пазычыў, напоены ейным спакоем, тугою ды марамі. Можа, і не паверыце, калі распавяду вам, што часта сярод тых твараў сустракаюцца ідэальна прыгожыя; але наведайце ваколіцы Пружаны і Кобрына і пераканаецеся, што гэта праўда.

Часта маладое дзяўчо або новапашлюбленая маладзіца з атуленым белай абслонкай тварам і звешанымі фястонамі сваёй старажытнай наміткі сустракае цябе такім глыбока тужлівым позіркам, што пасля доўга не можаш забыцца на гэтыя вочы. Ці яе слёзы так распякаюць, ці ўбоства распальвае, ці лёгкія водбліскі полымя? Што праўда, чары маладзіц праходзяць і перасквітаюць хутка, і песні з вуснаў, і прыгажосць з твару знікае бы краска, што зранку цягнулася да сонца, а ўвечары завяла на сцябле — але і для тых твараў, якія заўчасна моршчыць старасць, ёсць хвіліна прасвятлення, ёсць аркадыйскае імгненне (Аркадыя — містычная краіна, якая выкарыстоўвалася паэтамі эпохі Рэнэсансу ў якасці краіны вечнага шчасця, зямнога раю, сімвала ідэалізаванай краіны спакою, міру, ідыліі, вечнага шчасця. – заўв.Р.П.).

Народ цэлага гэтага краю ходзіць апрануты амаль так, як на Падляшшы ў каралеўстве, у бурых сукманах, з чырвонымі або цямнейшымі паясамі, у бараніх шапках. Мужчыны падгаляюць галовы, старэйшыя адпускаюць бароды. Дзяўчаты вылучаюцца даўгімі спушчанымі косамі і белай хусткай, замужнія — наміткай, завязанай амаль так, як мы бачым старыя польскія ўборы замужніх маладзіц на на карцінах XV-XVI стагоддзяў. Адзенне гэтае на вялікай тэрыторыі, за невялікімі выключэннямі, дзе нават вёска ад вёскі адрозніваецца, амаль паўсюль адзінае і найстаражытнейшае. Тутэйшыя шлюбныя і вясельныя абрады мала розняцца ад апісаных Рамуальдам Зянкевічам у ваколіцах Пінску, а песні патыхаюць пабожнасцю і тугою.

Мяшчанін, што паказаны тут збоку, строем значна адрозніваецца ад вяскоўца, хутчэй ён нагадвае шляхціца і ўбраннем прыпадабняецца ягамосці. Носіць капоту са шнуркамі і вышываннем, пас іншага колеру, шапку-вушанку (капузу) з лісы, а васпані таксама бякешай даволі прыгожа падбітая, і хусткай каляровай,





Юзаф Крашэўскі

і багатыя ніткі караляў мае; а калі полы спадніцы, паводле звычаю, праз кішэні плашчу павыцягвае і высуне, пераконваешся, што і той часткаю строю пахваліцца можа, бо то не які там пяркалік (пяркаль — від баваўнянай палатнянай тканіны, з якой шыюць пасцельную бялізну, мужчынскія кашулі і фартухі. Рознакаляровыя і друкаваныя пяркалі называюць таксама пяркалікамі. – заўв. Р.П.), але ваўняная ткань і багата вышытая, ажно ад галёнаў (галён — нашыўка з сярэбранай або залатой тасьмы. – заўв. Р.П.)

У большай частцы гэтага краю найчасцей ужываны абутак — лапці; але для святаў, вяселляў і парадаў вясковец мае боты, а жонка ягоная — чаравікі на платформе, а што ж да мяшчанаў, дык яны ўвогуле так званых пастолаў (лапцяў, – заўв. Р.П.) не носяць, лепей нават босым, што меней кампраметуе.



**ДАВЕДКА:** Юзаф КРАШЭЎСКІ (польск.: Juzef Ignacy Kraszewski, гады жыцця: 1812 — 1887, псеўданімы: Б. Балеславіта; Др. Амега; К. Пастарнак) — беларускі і польскі пісьменнік, гісторык і фалькларыст. Пісаў па-польску, лічыцца адным з найвялікшых польскіх пісьменнікаў. Пачынальнік польскай рэалістычнай прозы. Член Польскай АН у Кракаве (1872), Ганаровы член Чэшскай Акадэміі Мастацтваў (1873).

reha.of.by

## ДАРЭЧЫ

Вяртаецца хлопец са звярынца, дзе ўпершыню пабачыў яка. Мама пытаецца:

— Як як?

— Ну, як як… Як як як!

***

15 жніўня 1877г. Эдысан прапанаваў тэлефоннаму магнату Пітсбурга выкарыстоўваць для прывітання слова Hello (Бэл, які прыдумаў тэлефон, схіляўся да марскога Ahoy). У расейскай мове слова hello трансфармавалася ў нядбайнае «Алё». У што б ператварылася марское «Ахой», нават страшна падумаць.

***

- І што ты адчуваў, пасля таго як вы з ёй расталіся?

- Як быццам 50 рублёў страціў. Быццам бы і шкада, а ў той жа час неяк пофіг...

***

- Але, гэта ананімны тэлефон даверу КДБ?

- Так, Вячаслаў.

***

У школе на ўроку «Чалавек і Грамадства» перад дзецьмі выступае супрацоўнік КДБ. Бачачы, што ад яго гаворкі школьнікі пачынаюць спаць у парту, ён вырашыў змяніць маналог на дыялог:

- У каго-небудзь з вас ёсць да мяне пытанні?

Тут устае Пеця Іваноў і кажа:

- У мяне да вас тры пытанні:

1) Дзе Зміцер Завадскі?

2) Чаму людзі ў краіне такія бедныя?

3) Чаму ў краіне ўвесь час парушаюцца правы чалавека?

Гэбіст адчувае, што яго прабівае халодны пот, але тут звініць званок і дзеці хутка выбягаюць з класа. Напачатку наступнага ўроку ён ізноў пытае:

- У каго-небудзь яшчэ ёсць да мяне пытанні?

Вовачка:

- У мяне да вас пяць пытанняў:

1) Дзе Зміцер Завадскі?

2) Чаму людзі ў краіне такія бедныя?

3) Чаму ў краіне ўвесь час парушаюцца правы чалавека?

4) Чаму званок празвінеў на 20 мінуць раней?

5) Дзе Пеця Іваноў?

***

Пры дэмакратыі дурні маюць права галасаваць, пры дыктатуры — кіраваць.

Бертран Рассел, ангельскі філосаф (1872-1970).

***

Ідуць па дарозе Беласнежка, Дзюймовачка і Кашчэй.

Беласнежка:

- Я самая прыгожая!

Дзюймовачка:

- Я самая маленькая!

Кашчэй:

- Я самы злы і хітры!

Бачаць, побач з дарогай стаіць Дом Праўды. Зайшла ў яго Беласнежка, выходзіць і плача.

- Аказваецца, прыгажэй за мяне Сон-Прыгажуня!

Зайшла Дзюймовачка, выходзіць і плача:

- Менш за мяне Хлопчык-з-Пальчык!

Зайшоў Кашчэй. Выйшаў, нагамі тупае, валасы на сабе рве і крычыць:

- «Блін, ХТО ТАКІ ЛУКАШЭНКА?!

- Гена, якая колькасць міліцыі?

- Тысяч сто.

- Ага. А «БРСМ»?

- Ну, тысяч трыста.

- Угу... Добра...

- А навошта табе?

- Ды крыжаванку разгадваю. Самая буйная злачынная групоўка Беларусі...

***

У аэрапорце Тэль-Авіва ідзе пасадка на рэйс амерыканскай авіякампаніі.

Сцюард бачыць, што 50 месцаў у першым класе занялі багатыя жыды, і думае:

- Калі добра іх абслужу, дадуць па дзясятцы на чай, і будзе ў мяне 500$. А калі вельмі пастараюся, то і па 25$ не пашкадуюць.

Увесь палёт ён вакол іх скокаў, ваду-каньяк-таблеткі-пледы падаваў, з сіл выбіўся. Селі ў Нью-Ёрку, ён ужо кішэні прыгатаваў.

Выходзяць жыды.

Першы кажа:

- Я ў жыцці шмат лётаў, але ніхто, ніколі не абслугоўваў мяне так, як Вы. Дзякуй.

Пацiснуў руку і сышоў.

Другі:

- Дзякуй. Пацiснуў руку і сышоў.

І так 49 чалавек.

Сцюард у ступары.

Апошні, маленькі дзядок, усё тое ж самае сказаў і дадаў:

- Мы тут з сябрамі вырашылі Вам аддзячыць... І працягвае сцюарду чэк на $10 000.

Стаіць сцюард на трапе, махае ўслед жыдам і шэпча:

- Жыды, жыды. Можа быць, вы і не забівалі Хрыста. Але як жа вы яго мучылі!

***

Сустракаюцца два прыяцеля. Адзін кажа:

- Уяўляеш, учора для жарту праз газету даў аб'яву, што на цэнтральнай плошчы горада ў 12 гадзін будзе збор мудакоў.

- Ха-ха-ха! Напэўна ніхто не прыйшоў?!

- Уся плошча быў забіта!

- Ды ты што?!

- Усе прыйшлі паглядзець на тых, хто прыйдзе!

***

Іспыт. Выкладчык:

- Такім чынам, пачнем. Хто ведае на 5?

Паднімаецца некалькі няcмелых рук, выкладчык бярэ у іх залікоўкі і ставіць «Выдатна».

- Ну а хто ведае на 4? - рук ужо больш, задаволеныя студэнты атрымліваюць «Добра» і сыходзяць. Тое ж самае - з «Здавальняюча». У выніку ў аўдыторыі застаецца некалькі студэнтаў, якія рвуць на сабе валасы за нерашучасць.

- А вы, значыць, ведаеце на 2. Значыць, хочаце на пераздачу.... Ну што ж, пераздача. Хто ведае на 5?

***

Іду па вуліцы, настрой файны. Раптам падыходзяць двое мянтоў і кажуць - «Прайдзёмце, будзеце сведкай». Чорт мяне дзёрнуў ляснуць - «Нарэшце вырашылі зарэгістраваць свае адносіны»?

***

Выпадкова паслізнуўшыся на экскурсіі па кракадзілавай ферме, турыст стаў прамежкавым звяном у харчовым ланцужку.

***

Наогул я добры чалавек, але трэба карміць сям'ю.

- Любы, ты мяне кахаеш?

- Так.

- А як?

- Як ні дзіўна.

***

Чалавек сядзіць у паліклініцы. Як звычайна, бясконцы натоўп, нехта ідзе па-за чаргой. Нарэшце чалавек узрываецца:

— Ды што ж гэта такое, што ж гэта за сістэма такая?!

Яму адказвае таварыш па няшчасці з чаргі:

— Калі вам не падабаецца сістэма, чаму вы пачынаеце з паліклінікі?

***

- Як ваша прозвішча?

- Пя-пя-пя-пятроў.

- Вы што, заіка?

- Не, бацька быў заікай, а пашпартыст - сукай!

***

Большасць мужчын якія лічаць, што жаночае «не» гэта «так», цяпер адбываюць тэрмін у турме.

***

Ліст ад сябра з войска: «Нас тут вучаць прыбіраць снег і варыць бульбачку. Так што калі вораг нападзе - мы яму дарогу расчысцім і есці прыгатуем».

***

Выкарыстоўваць зорачкі замест літар у мацюкальных словах — усё адно, што рабіць мінет на плошчы і прытуляць рот далонькай.

***

Кідаючы смецце на вуліцы, не забывайце пахрукаць!

***

- Дурніца, ну хто табе сказаў, што ты тоўстая? Давай бяры два крэсла і садзіся да нас!

***

IPhone - гэта як сіфіліс ў калгасе. Спачатку - у старшыні, потым ва ўсіх астатніх.

***

Сёння я пахаваў хамячка... 

Сёння я пакляўся на магіле свайго хамячка, што больш ніколі не буду скакаць з разбегу на канапу.

***

Трэба ж так не верыць у бога, каб паставіць на царкву маланкаадвод!

***

- Мам, дай грошай.

- «Алёна дасць»!

- Мам, гэта стары прыкол...

- Так? Ну тады «давай да свіданія».

***

Прыходзіць новы настаўнік у клас і прадстаўляецца:

- Мяне клічуць Алег Пятровіч, я за Лукашэнку. Дзеці, па чарзе прадстаўляйцеся гэтак жа, як і я.

- Мяне клічуць Маша, я за Лукашэнку.

- Мяне клічуць Сцёпа, я за Лукашэнку.

- Мяне клічуць Вовачка, я апазіцыянер.

- Вовачка, чаму ты апазіцыянер?!

- Мая мама апазіцыянерка, мой тата апазіцыянер, мае сябры апазіцыянеры, і я таксама апазіцыянер.

- Вовачка, а калі б твая мама была прастытуткай, твой тата — наркаманам, сястра — шлюхаю, а сябры — геямі, кім бы ты быў тады?!

- Вось тады б я быў за Лукашэнку!

***

– Я сыходжу ад цябе. Мне надакучыла, што ты вечна падшпільваеш мяне з нагоды маёй лішняй вагі!

– Стой! Не сыходзь! Падумай пра наша дзіця!

– Пра якое дзіця?

– Дык ты не цяжарная?!

Дзедзіч ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 24.09.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў